Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 51 Нядзеля, 14-га Сьнежня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.



## Аб „Крэсовай Радзе".

У Варшаве пры цэнтральных уладах мае быць утворана „Крэсовая Рада", ў складзе якой маюць быць беларускія і украінскія прадстаўнікі.

Віцэ-прэм'ер п. Тугут прапанаваў ужо навет паслу Ярэмічу ўвайсьці ў склад гэтае рады, але прапазыцыя гэта кончылася адмовай пасла Ярэміча.

Зразумела саўсім, што той ці іншы пасол з Беларускага Пасольскага Клюбу мог-бы прыняць падобную прапазыцыю толькі тады, калі-б адтрымаў на гэта згоду ад свайго Клюбу.

Для нас зусім невядомы і няясны тыя мотывы, па якіх Беларускі Пасольскі Клюб адмаўляецца прыняць удзел у працах Крэсовай Рады.

Усім ведама, што падчас разгляду Соймам у ліпні месяцы гэтага году языковых законаў, якія ня мыляючыся, можна назваць проста *крэсовымі* законамі, Беларускі Пасольскі Клюб наракаў на тое, што законы гэтыя выпрацоўваліся бяз ніякага удзелу з боку беларусаў. А калі зайшла гутарка аб удзеле беларусаў у працы па аздараўленьню тутэйшага жыцьця, дык беларускае прадстаўніцтва ў Сойме, як відаць, адносіцца да гэтага удзелу нэгатыўна.

Падобную тактыку вельмі трудна зразумець, але ў тактыцы Беларускага Пасольскага Клюбу было ужо гэтулькі незразумелага, што дзівіцца саўсім ня прыходзіцца.

Якімі маюць быць функцыі проектуемае урадам „Крэсовай Рады", пакуль што, дэтальна невядома.

У кожным выпадку Крэсовая Рада творыцца для тутэйшых справаў і калі-б яна інтсвавала крыху раней, дык можа і ня было-б тае блытаніны з языковымі законамі, якая ў цяперашні час адтрымалася, зьвёўшы гэтыя законы да значэньня мёртвае літары.

І напэўна, пры істнаваньні беларускага прадстаўніцтва ў органе, якому быў-бы даны голас у справе практычнага правядзеньня законаў аб мясцовых мовах, ня здарылася-б фактычнага ануляваньня духу закону праз выданьне міністэрскага распараджэньня аб спосабах выкананьня закону датычна ўжываньня матчынае мовы ў адміністрайцых установах.

Згодна з духам польскае конституцыі і паводлуг простае лёгікі права, падобнае распараджэньне выканаўчае ўлады ня можа мець патрэбнае вагі й моцы, як гэткае, што пярэчыць закону і фактычна зводзіць яго да нічога.

Тымчасам, распараджэньне выдана, яно істнуе і мае абавязковую моц. І хочацца верыць, што распараджэньне гэтае не абміне ў першую чаргу стаць на парадку дня Крэсовае Рады, калі яно самім урадам ня будзе адменена яшчэ да стварэньня гэтае Рады.

Ніводзін беларускі прадстаўнік у Радзе ня можа ў будучыні згадзіцца на падобныя да вышэйспомненага выканаўчыя распараджэньні, супярэчныя з законамі, бо ў праціўным выпадку няма нашто і гарод гарадзіць.

А дзеля гэтага, сама рэальнасьць падказвае каб прадстаўніцтва ад беларусаў у Крэсовай Радзе было і адмаўляцца ад гэтага прадстаўніцтва — значыць не разумець простых інтарэсаў свайго народу.

Аднак-жа, гэтае прадстаўніцтва павінна быць апраўдана ў найблізшай будучыні пэўнымі рэальнымі рэзультатамі.

Языковыя законы час ужо пачаць праводзіць у жыцьцё, як найбольш безбалючча, але цьвёрда і нязухільна.

Трэба памятаць, што пры правядзеньні гэтых законаў цераз Сойм чуліся з вышыні парлямэнцкай трыбуны ясныя галасы прадстаўнікоў польскае дэмакратыі аб тым, што законы аб матчынай мове зьяўляюцца першым крокам на шляху аздараўленьня тутэйшых нацыянальных адносін.

Гэткія заявы абавязваюць, прынамсі, польскую дэмакратыю да сьмеласьці ў ажыцьцяўленьні важных для нашага жыцьця законаў, як і да ўдасканальніваньня іх у практыцы, калі-б гэтага вымагала жыцьцё.

Місія стварэньня Крэсовае Рады ляжыць цяпер на віцэ-прэм'еры п. Тугуце, які зьяўляецца адным з выдатнейшых прадстаўнікоў польскае дэмакратыі. І мы пэўны, што сярод беларускіх дзеячоў знойдуцца тыя, хто пайдзе насустрэчу заданьням п. віцэ-прэм'ера ў часьці паклікання да жыцьця органу, важнага для нашага краю.

Роля беларускага прадстаўніцтва ў Крэсовай Радзе нялёгкая і яна будзе мець сэнс толькі тады, калі выканаўчыя загады цэнтральных уладаў будуць скірованы не назад, а ўперад, калі яны ня будуць разыходзіцца з законамі ды з жывым бягучым жыцьцём.

## Палітычны агляд.

У нядзелю 7 сьнежня адбыліся выбары ў нямецкі рэйхстаг і прускі ляндтаг. Перадапошні рэйхстаг быў распушчаны пасьля 5-месячнага істнаваньня таму, што партыйны склад яго не даваў магчымасьці стварыць сільны, незалежны кабінэт, які апіраўся-б на пэўную большасьць. Урад разьлічваў на вялікую перамогу рэспубліканска-дэмакратычных умяркованых элемэнтаў, дзякуючы зьмяніўшайся міжнароднай сітуацыі. На гэта разьлічвалі таксама ў Парыжы і Лёндане. Ня трэба ўпушчаць з віду, што нямецкі рэйхстаг быў распушчаны яшчэ пры урадзе Макдональда, тымчасам, як самыя выбары ў Нямеччыне адбываліся ўжо пры ўрадзе консэрватараў у Англіі, і наагул рэзультаты нямецкіх выбараў не апраўдалі поўных надзеяў, як нямецкага ўраду, так і Лёндану з Парыжам. Хаця парыская прэса лічыць саўсім магчымым далейшае супрацоўніцтва Эрыё з нямецкім урадам, які выдзяліць з сябе новы нямецкі рэйхстаг.

На апошніх нямецкіх выбарах найболей моцнае паражэньне пацярпелі крайнія флангі — камуністыя і фашыстыя (гітлераўцы). Камуністыя адтрымалі 45 месцаў (раней мелі 62) і гітлераўцы — 14 (раней 32). Паражэньне крайніх абструкцыйных элемэнтаў, замінаўшых нармальнай законадаўчай працы парлямэнту, паказвае на тое, што Нямеччына паступова ўходзіць у каляіну нармальнага творчага жыцьця. Затое ўзмацніліся, чародныя за крайнімі флангамі, партыі, бліжэйшыя да цэнтру—соцыяль-дэмакраты і нацыяналістыя, якія зьяўляюцца найболей буйнымі ў рэйхстагу. Соцыяль-дэмакраты адтрымалі 130 месцаў (раней 104) і нацыяналістыя — 104 (раней 96). Соцыяль-дэмакраты ўзмацніліся за рахунак камуністых, а нацыяналістыя за рахунак фашыстых. У цэнтры адбыліся самыя нязначныя зьмены. Каталіцкая партыя цэнтру, з якое выйшлі абодвы апошнія канцлеры Вірт і Маркс і якая дае найбольшы контынгэнт міністраў, адтрымала 68 месцаў (раней 65), народная партыя Штрэзэмана, бывшага раней канцлерам, а цяпер міністрам заграцічных справаў, адтрымала 50 месцаў (раней 44) і дэмакраты—32 (раней 28). А наагул усе тры партыі крыху павялічыліся, часткаю дзякуючы таму, што пабольшаў агульны лік паслоў у парлямэнце, а часткаю, дзякуючы расьцярушыўшайся партыі Гітлера і Людэндорфа. А ўсе дробныя групы, блізкія па сваіх палітычных пераканаўньнях да цэнтру, засталіся больш-менш у ранейшым палажэньні: баварская народная партыя — 19 (раней 16), сельска-гаспадарчы саюз—10 (раней таксама 10), ганнаверская партыя—4 (раней 5), сельскі саюз—4 (раней 9), баварскі сельскі саюз — 4, баварская мяшчанская партыя—2, вюртэмбэргскі саюз — 3 і гэсэнскі сялянскі саюз—1. Агульны лік паслоў у рэйхстагу 489, у той час, як раней было 472. Гэта тлумачыцца тым, што падчас апошніх выбараў галасаваў больш лік выбаршчыкаў, як раней. А лік паслоў у Рэйхстагу, згодна з нямецкай конституцыяй, залежыць ад ліку галасаваўшых. Кожныя 62 тысячы выбіраюць аднаго пасла.

На апошніх выбарах было на 1.700.000 галасоў больш, як на папярэдніх. Пры апошніх выбарах галасавала 82 процэнты агульнага ліку маючых права голасу, тымчасам, як меркавалі, што лік выбаршчыкаў не перавысіць 62%.

Як відаць з паказанага параўнаньня ліку розных партыяў, урад не дасягнуў тае мэты, якую сабе ставіў, распушчаючы парярэдні рэйхстаг і назначаючы новыя выбары. Урад заўсёды дрыжаў перад опозыцыяй, якая магла яго скінуць у кожны лепшы мамэнт і калі гэтага не рабіла, дык толькі таму,

што сама не магла стварыць ураду. Дзеля гэтага ўрад і разьлічваў выкарыстаць часова надыйшоўшую спагадную ўнутраную і вонкавую сытуацыю Нямеччыны ў зьвязку з урэгуляваньнем рэпарацыйнага пытаньня і адтрымаваньнем заграничнае пазыкі, назначаючы новыя выбары. Гэтага ўвесь час трэбавалі, як нямецкія соцыялістыя, так і Парыж з Лёнданам, мяркуючы што новыя выбары, зробленыя ў больш спакойнай атмосфэры, чымся выбары 5 траўня, дадуць пэўную перамогу соцыяль-дэмакратам, якія стаяць за мір і паразуменьне з саюзьнікамі. Але надзеі іхнія не апраўдаліся. Праўда, соцыяль-дэмакраты здабылі сабе 30 новых месцаў, але больш-менш у гэткай самай прапорцыі павялічыліся і нацыяналістыя, якія яўна выступаюць за манархію, пераглед вэрсальскага трактату і проці правядзеньня пляну Доўса. Гэткім чынам, урад цэнтру пасьля новых выбараў апынуўся ў тым самым палажэньні, ў якім быў і раней. Ён паранейшаму павінен лічыцца з опозыцыяй, як з правага, так і з левага боку. Ні цэнтра-правы, ні цэнтра-левы ўрад ня можа мець 2/3 усяго рэйхстагу, як гэта вымагаецца, ў некаторых важных выпадках (прыняцьце пляну Доўса). За граніцаю лічаць, што нямецкі ўрад задаволены навет рэзультатамі выбараў, якія не вымагаюць выразнага выяўленьня свайго твару перад саюзьнікамі. Калі-б адтрымалі поўную перамогу соцыяль-дэмакраты, тады соцыялістычнаму нямецкаму ўраду прышлося-б без агаворак прыняць усе варункі саюзьнікаў, тымчасам, як ранейшыя нямецкія ўрады апраўдываліся заўсёды сваею нясілаю, цяжкім палажэньнем краю і заўсёднаю пагрозаю дзяржаўнага перавароту, а праз гэта паменшылі контрыбуцыю саюзьнікам з 370 мільярдаў залатых марак больш-менш да 40 мільярдаў ды апрача таго адтрымалі адсрочку платы (мараторыюм) і заграничную пазыку ў разьмеры 800 мільёнаў залатых марак на адбудову прамысловасьці.

Быць можа гэта і лепей, што выбары ў Нямеччыне не далі поўнае перамогі, якой-нібудзь аднэй партыі, дзеля таго, што гэта магло-б давясьці да адкрытага конфлікту або з саюзьнікамі і суседзямі, або з опозыцыяй унутры краю.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

**У Польшчы.**

Пан Прэзыдэнт Рэспублікі прыняў адстаўку міністра Прасьветы і Рэлігійных Вызнаньняў Б. Міклашэўскага, даручыўшы кіраваньне міністэрствам аднаму з дырэктароў дэпартамэнтаў п. Завадзкаму. Прычынаю адстаўкі п. Міклашэўскага паслужыла выказанае яму большасьцю Сойму недаверые, падчас галасаваньня дадатковага бюджэту на 1924 г.

Прэм'ер-міністар п. Грабскі меў нараду з некалькімі міністрамі, якія ўваходзяць у склад палітычнага камітэту па пытаньню аб над'звычайных поўнамоцтвах, скрок якіх канчаецца 1-га студня 1925 г.

Як піша „Przegląd Wieczorny" урад не замераецца прасіць аб працягу поўнамоцтваў у галіне эканамічнай, а проектуе ў выпадку патрэбы ўвайсьці ў Сойм з прапазыцыяй надаць ураду поўнамоцтвы ў сэнсе аховы грамадзкае бясьпекі.

Агульная сума польскага даўгу Амэрыцы даходзіць да 187.565,025 даляраў.

11-га сьнежня адбылося паседжаньне Сэнату, на якім вырашаны рад бягучых пытаньняў. Чароднае паседжаньне адбудзецца 17 сьнежня.

У соймавым клюбе „Wyzwolenie" адбыліся выбары прэзыдыуму. Маршалкаваў пасол Рудзінскі. Віцэ-прэзэсамі выбраны: Путэк, Валерон, Домбскі і Касьцялкоўскі. Сэкрэтарамі: Фіялкоўскі і Нядзельскі.

Рэгуляміновая камісія Сойму пастанавіла выдаць судовым уладам гэткіх паслоў: Ланцуцкага, Васынчука, Сяргея Казіцкага, Чучмая і Ількова, адмовіўшыся выдаць паслоў: Панкраца, Эйзэнштэйна і Арцішэўскага.

На паседжаньні соймавае прасьветнае камісіі пасол Рымар закрануў справу замеранага звальняньня з 31 студня 1925 году неквэліфікованых вучыцялёў. Прадстаўнік Міністэрства Прасьветы прачытаў цыркуляр Міністра, з якога відаць, што звальненьне адсрочана аж да ўнясеньня новэлі да закону. Таксама прыняты па прапазыцыі пас. Рымара проект аканчальнага сроку для складаньня экзаменаў настаўнікамі, якія не саўсім выкваліфікаваны, да 31 жніўня 1927 г.

**За граніцай.**

У **Нямеччыне** кабінэт маецца падацца ў адстаўку ў пачатку гэтага тыдня.

„Berliner Tageblatt" піша, што **савецка-нямецкія** перагаворы аб заключэньні гандлёвага трактату схіліліся ў благі бок. З боку **С.С.Р.Р.** выстаўлена трэбаваньне крэдыту. Але проці гэтага паўстаюць нямецкія дзеячы.

Паводлуг вестак з **Мадрыду (Гішпанія)**, з прычыны амаль ня поўнага вываду войскаў з заходняе паласы **Мароко**, Прыма-дэ-Рывэра незабаўна прыедзе ў Мадрыд дзеля дакладу сваім колегам аб палажэньні.

З **Рыму** паведамляюць, што **Рада Лігі Народаў** пастанавіла прадоўжыць мандат Высокага Камісара Лігі ў **Гданску** Мак-Донэля яшчэ на адзін год.

Бышы прэм'ер **Эгіпту** Заглюль-паша захварэў на запаленьне лёгкіх.

З **Белграду** перадаюць, што ў **Альбаніі** пачалася рэвалюцыя на грунце нездаволеньня аграрнаю рэформаю. Паўстанцы добра азброены.

„Роста" паведамляе, што сэкрэтар камісарыяту заграничных справаў Пятроўскі назначаны прадстаўніком С. С. Р. Р. ў **Эстоніі**. Цяперашні савецкі прадстаўнік у Рэвалі Кабэцкі пераводзіцца ў Копэнгаген.

Саюзная Рада ў **Швайцарыі** выбрала саюзнага райцу Мусы прэзыдэнтам Швайцарыі на 1925 год.

11 гэт. сьнежня ў **Рыме** Брыян абгаварываў з Мусоліні агульныя і дэтальныя інтарэсы, якія спэцыяльна цікавяць **Францыю** і **Італію**.

З **Монтэвідэо** паведамляюць, што пагранічнае непаразуменьне паміж **Бразыльскаю** і **Уругвайскаю** рэспублікамі (ў паўднёвай Амэрыцы) урэгулёвана дарогаю прыязьні.

Пасолы дзяржаваў, падпісаўшых тэкст міравога дагавору, падалі **кітайскаму** ўраду ў **Пэкіне** ноту, ў якой напамінаецца аб неабходнасьці выпаўненьня Кітайцамі міравых абавязаньняў.

„Kurjer Poranny" паведамляе з Гэльсінгфорсу, што тамашнія палітычныя кругі заяўляюць аб падпісаньні ў найбліжэйшым часе мілітарнага паразуменьня паміж **Эстоніяй, Латвіяй** і **Літвою**, скірованага проці **С. С. Р. Р.** Перагаворы аб падобным паразуменьні ідуць даволі даўно. Прычыны гэткага кроку балтыцкіх дзяржаваў, трэба шукаць у апошнім камуністычным выступленьні ў Эстоніі, якое было арганізована **Масквою**.

З **Вэнгрыі** надыйшла вестка, што ў Будапэшце арыштована бышая імпэратрыца Зіта, якая стаяла на чале монархічнага згавору, і з гэтай мэтаю прыехала з фальшывым пашпартам у Будапэшт разам са сваім сынам Оттонам, кандыдатам на вэнгерскі пасад. У згавор запутаны таксама і граф Андрашы, які даў прытулішча бышай царыцы і яе сыну.

Як паведамляе „Figaro", ў найбліжэйшым часе ў Грэцыю выедзе **французская** ваенная місія, каб памагаць пры рэарганізацыі грэцкае арміі. Аднача сна **ангельскі** ўрад высылае туды місію марскіх афіцараў, якая маецца рэарганізаваць грэцкі ваенны флёт.

У **Эстоніі** прэзыдэнт рэспублікі Акель, ня гледзячы на просьбы блізу што ўсіх фракцыяў, каб застаўся на сваёй пасадзе, зрокся прэзыдэнства, з прычыны палажэньня яго здароўя. А рада міністраў, бяручы пад увагу агульнае жаданьне соймавых фракцыяў аб пашыраньні ўрадовае коаліцыі, таксама падалася ў адстаўку. Пасада прэзыдэнта мае быць запрапанова парлямэнтам бышаму міністру справядлівасьці Яксону разам з даручэньнем місіі стварэньня новага кабінэту. Яксон належыць да нацыянальнае партыі, якая цяпер зьяўляецца ў парлямэнце партыяй цэнтру.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

---

**К. С.**

# Янка Канцавы.

**Вясковая драма ў 5 дзеях.**

*(Глядзі № 50 „Грам. Голасу").*

**(Юрась).**

А у лесе на ляшчыне
Калыхала дзеўка сына;
Калыхала і плакала,
А чаго-ж я, маладзенька, дачакала.

Ах, Разалька, Разалька! Каб ты ведала, як глыбока запала ў мае сэрца... Каб ты ведала!.. І так яно баліць мне бязьмерна... Ах, і піць я дзеля таго мушу.

*(Апірае галаву на далоні, локцямі на стале. Уздыхае безнадзейна).*

Разалька, Разалька!

ЗЬЯВА 4.

*Уходзіць Бэрка і зьбліжаецца нясьмела.* **Юрась,** *убачыўшы яго, кажа нездаволена ў старану:* Патрэбны тут, скула!

**Бэрка** *(з хітрым уніжэньнем).* Вечар добры пану! Ай, пан адзін! Ужо-ж бацькі няма ў мяне: пашоў да бабы. Чаго-ж пан Юр так рана ўцёк да хаты? Ну, а што тут рабіў у пана Янка Канцавы? Спаткаў я яго вельмі гнеўнага на пана. Мусіць вы яго выправілі?..

**Юрась.** Прынёс гарэлкі?!

**Бэрка.** Ну, чаму ня прынёс?.. Я заўсёды маю з сабой трошкі. Божа барані хвароба якая, ці прыпадак: зара і лякарства. *(Падае Юрасю бутэльку. Той цалуе яе і раптам кідае аб зямлю, кажучы:* Праклятая атрута! *Бутэлька разьбіваецца. Жыд перапуджаны крычыць:* Ай-вай, што пан робіш. Гэта каштуе!)

**Юрась.** Ідзі проч, Бэрка, бо я злы!

**Бэрка.** Ну, я пашоў. Каб ня злосьць, то я сказаў-бы яшчэ два словы... Чаму гэта сёньня дзяўчаты ня прышлі з вамі да мяне? Ай-ай! Гэты Янка зара збунтуе ўсю вёску! Спаткаўшы яго, кажу: Вечар добры пану Яну! А ён: Будзь—кажа—здароў! Калі ня кінеш ашуканства, то выкурым цябе з вёскі! Ну, каго я ашукаў? Каму я што благое зрабіў? Ай гэты Янка! Гэта-ж я чуў, што ён вёску на хутары намаўляе дзяліць. А ўжо хто-ніхто яму патакуе. Асабліва гэта яго любая Разалька.

**Юрась.** Разалькі ты не чапай, смала, чуеш?

**Бэрка.** Ну, ну! А што-ж тады будзе, калі яго паслухаюць? З торбамі тады ісьці і мне і людзям! Ой, дрэнна вы, хлопцы, робіце, што слухаеце яго!

**Юрась.** Хто яго слухае? Не такія мы дурні, як ты думаеш!

**Бэрка.** Ну, дык чаму ён вамі камандуе? Чаму вы яго не павучыце, як летась Адася, каторы думаў, што ён разумнейшы за ўсіх?!.

**Юрась.** Да пары збан ваду носіць. Павучым яго, калі будзе трэба, павучым і цябе, калі жыць будзеш абманам і лезьці не ў своё...

**Бэрка** *(з хітрым сьмехам).* Ну, і пана Юра ніколі не зманіў, ані зманю. Завялікі яго розум, каб даўся зманіць... Ай-вай! Ужо поўнач! Добрай ночы пану!..

ЗАСЛОНА.

## ДЗЕЯ IV.

**Каруся — Разалька — Міхаеіха — Дзеці — Францук.**

*У хаце Янкі. Нядзеля. Каруся пасьвяточнаму. Разглядае кніжку і абразочкі. Папраўляецца пры люстры.*

ЗЬЯВА 1.

**Каруся** *(адна).* Вось хараша неяк на сьвеце і ясна і сьветла, а разам і сумна чагосьці. Ка-

# Агляд прэсы.

Пры галасаваньні ў Сойме (10—12 сьнежня) дадатковага бюд'жэту на 1924 г. ня была прынята прапазыцыя пасла Рымара (Народна-Нацыянальны Саюз) аб выражэньні даверыя міністру народнае прасьветы і рэлігійных вызнаньняў п. Мікляшэўскаму. За прапазыцыю пас. Рымара галасавала правіца, ня выключаючы „Пяста“, процілявіца і нацыянальныя меншасьці. Прапазыцыя была правалена большасьцю **аднаго** голасу (за 174, процi 175). Рэзультатам гэтага зьявілася адстаўка міністра Мікляшэўскага.

„Gazeta Poranna“ бачыць рэзультат галасаваньня ў:

> недысцыплінованасьці некаторых паслоў „Пяста“, якія дэмонстрацыйна стрымаліся ад гэтага галасаваньня.

„Kurjer Warszawski“, лічачы што ў Сойме вырабілася „атмосфэра крызысу“ паміж іншым піша:

> У соймавых кругох пасьля галасаваньня надыйшло замяшаньне. Годзі прачытаць дэклярацыі партыяў, каб ясна можна было ўявіць, наколькі няцьвёрдым зьяўляецца палажэньне ўраду. Пры гэтых варунках адстаўка міністра, які быў падтрымліваны солідарна ўсімі нацыянальнымі партыямі, можа пацягнуць за сабою паважныя пасьледствы. Група паслоў з „Пяста“,— зазначае газэта,—стрымаўшаяся ад галасаваньня, павінна ўзяць на сябе ўсю адпавядальнасьць за рэзультаты галасаваньня.

Левая польская прэса спакайней адносіцца да таго, што здарылася.

„Kurjer Polski“ піша:

> Пасьля агалашэньня рэзультатаў галасаваньня пры другім чытаньні павінен быў-бы п. Мікляшэўскі пацапца ў адстаўку. Напраўду мог-бы прэзэс міністраў не перадаць гэтае адстаўкі п. Прэзыдэнту Рэспублікі, альбо перадаць з прапазыцыяй аб яе няпрыняцьці, але-ж тады ўвесь кабінэт ангажаваўся-б у барацьбе за аднаго з сваіх сяброў. Паўторнае паражэньне міністра пацягнула-б за сабою адстаўку ўсяго ўраду... П. Мікляшэўскаму падставілі нагу яго ўласныя староньнікі. Можа гэтаю пераконваючаю мэтодаю навучымся крыху парлямэнтарным формам і пераканаемся, што вотум недаверыя не патрабуе праходзіць цераз тры чытаньні і цераз дзьве Ізбы, бо не належыць да часьці законадаўчай парлямэнту, але зьяўляецца праяўленьнем кантролю над урадам.

„Kurjer Poranny“ гэтак разважае над фактам адстаўкі пана Мікляшэўскага:

> Адстаўка міністра Міклашэўскага будзе прывітана ўсімі, хто паглядаў са страхам на ўсе тыя дзіўныя, смутныя, трывожныя, а часам і проста забаўныя рэчы, якія тварыліся падчас яго ўрадаваньня з адміністрацыяю школьніцтва і рэлігійных вызнаньняў, — з пачуцьцём вялікае палёгкі і з надзеяй, што хто-б ні стаў на чале гэтае адміністрацыі, дык пачне пару паважнае працы і дбаласьці аб хіба што найгалоўнейшай галіне ўплываў ураду на духоўнае жыцьцё і агульную культуру грамадзянства.

Соцыялістычны орган „Robotnik“ спыняецца над большасьцю толькі аднаго голасу, рашыўшага лёс п. Мікляшэўскага, як міністра, і лічыць, што падобнае большасьці:

> хапала-б на шмат важнейшыя навет рэчы, як п. Мікляшэўскі.

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Рэформа шлюбнае прысягі ў Англіі.

Сабраньне ангельскіх сьвяшчэньнікаў большасьцю 83 процi 78 галасоў пастанавіла зьмяніць форму адказу на пытаньне, якое ставіцца сьвяшчэньнікам маладой пры шлюбе. Пытаньне, якое цяпер ёй ставяць гэткае: „Ці прысягаеце вы пакарацца вашаму будучаму мужу?“. Проектуецца зьмяніць гэтае пытаньне так, што жанчыны павінны будуць толькі адказваць: „Я прысягаю яго любіць і памагаць яму ўва ўсіх выпадках жыцьця“. Гэтая пастанова, прынятая пад уплывам трэбаваньняў жаноцкіх арганізацыяў, ня мае, аднак-жа, пакуль што, законнае сілы, дзеля таго, што гэткая зьмена можа быць устаноўлена толькі парлямэнтам, пасьля чаго кароль, як галава англіканскае царквы, павінен апублікаваць адпаведны дэкрэт.

### Індуская мэдыцына.

Урадам Мадраскага краю ў блізкай будучыні адчыняецца індуская мэдыцынская школа, ў якой будуць выкладацца побач з анатоміяй і фізіялёгіяй, лячэбныя мэтоды туземнае індускае мэдыцыны. Гэта першы выпадак офіцыяльнага прызнаньня ўрадам навуковае вартасьці туземнае мэдыцыны.

### Таямнічае забойства.

У першыя дні бягучага месяца амэрыканскі віцэ-консуль ў Белградзе (Югаславія) Дайтон паведаміў паліцыю, што яго прыяцелька Ганна Узурпайціс прабавала забіць яго. Калі паліцыя зьявілася ў кватэру віцэ-консуля, якая месьціцца ў будынку амэрыканскае місіі, дык знайшла на падлозе няжывую жанчыну. Віцэ-консуль заявіў, што яго прыяцелька хацела абліць яго мітрыволем. Гэта ёй не ўдалося. Тады яна выстраліла з рэвальвэра, раніўшы віцэ-консуля ў галаву. Пасьля гэтага ён выбег з пакою і выклікаў паліцыю. Далейшае яму невядома. Аднак-жа раны, якія ёсьць на целе забітае Ганны Узурпайціс, саўсім выключаюць магчымасьць самагубства. 7-га гэтага сьнежня віцэ-консуль Дайтон памёр ад сатрасеньня мозгу, выкліканага адтрыманымі ім ранамі. Дапрасіць яго не ўдалося. Пра асобу яго прыяцелькі забітае Ганны Узурпайціс удалося даведацца вельмі мала чаго. У ліку знойдзеных у яе кнігаў, аказаўся літоўскі журнал, выходзіўшы пад яе рэдакцыяй.

### Тыбэцкія лямы (духоўнікі) цікавяцца Эўропай.

Гісторыя аднатоўвае першы выпадак прыезду з Тыбэту тамашніх духоўнікаў ў Эўропу. Сем лямаў пакінулі свой родны край, у якім знаходзіцца Эвэрэст — найвышэйшая гара на сьвеце — і гэтымі днямі прыбываюць у Лёндан. Яны маюць замер зрабіць даўгую падарожу па Эўропе з мэтаю пазнаёміцца з здабыткамі заходняе культуры. Усім вядома, што ў іхнім родным краі эўропэец ня можа дабрацца да іхняга сьвятога места Льхас без пагрозы сьмерці.

### У Амэрыцы $15\frac{1}{2}$ мільёнаў самаходаў.

Статыстычныя матар'ялы Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў за мінулы месяц паказваюць, што амаль ня кожны шосты грамадзянін у Амэрыцы мае самаход. Агулам у Злучаных Штатах ёсьць 15 з паловаю мільёнаў самаходаў, тады як ува ўсім сьвеце, апрача Паўночнай Амэрыкі (Злуч. Штат.) лік самаходаў раўняецца толькі 3-м мільёнам.

Дзеля таго, што ў кожным самаходзе ёсьць месца на 6 асобаў, дык усё насяленьне Злучаных Штатаў магло-б зьмясьціцца на $15\frac{1}{2}$ мільёнах самаходаў і пусьціцца ў падарожу па Амэрыцы.

У Нью-Іорку натаўп самаходаў настолькі вялізарны, што паліцыя, якая пільнуе парадку пры камунікацыі, ня можа спраўляцца са сваею задачаю. У першым паўгодзьдзі сёлетняга году больш як 2000 асобаў упалі ахвярамі самаходаў.

Гаражы для самаходаў будуць цяпер мясьціцца ў пад'зямельлях, а ў апошні час адзін прадпрыемца з Чыкаго проектуе будаваньне гаражоў у некалькі паверхаў, значыцца гаражоў-небаскрэбаў.

Цана самаходаў у Амэрыцы даволі даступная, бо толькі за 125 даляраў (крыху больш за 625 злотых) можна купіць саўсім добрую машыну. Пры гэтым трэба зазначыць, што бэнзына там гэтак сама даволі танная і праз гэта амаль ня кожны можа сабе пазволіць „роскаш“ мець самаход.

Кожны ўласьнік самаходу адначасна зьяўляецца экзаменованым шофэрам і навет жанчыны самі кіруюць сваімі самаходамі.

### Жаноцкае войска.

Амэрыканскі Дэпартамэнт вайсковых справаў разглядае цяпер проект стварэньня аддзелу амазонак (жанчын-ваячак). Проект прадбачыць даручэньне жанчынам паважных функцыяў ува усіх часьцях арміі, на выпадак неабходнасьці напружаньня ўсіх сілаў.

Гэтыя амазонкі маюць быць згрупованымі ў спэцыяльнай фармацыі; пры гэтым іхняя служба была-б, вынятково толькі ахвотніцкаю.

Ня выключана, што камандаваньне гэтымі фармацыямі прыме жанчына-гэнэрал.

У жаноцкіх аддзелах войска мае быць тая самая дысцыпліна і тыя самыя абавязкі, як і ў мужчынскіх аддзелах.

### Безрабоцьце.

Першаю па велічыні безрабоцьця лічыцца Англія. У пачатку лістапада месяца гэтага году там было 1.247.000 безработных, што раўняецца 11 проц.

---

заў-бы жыцьцё — то ігра цемры і сьвятла, радасьці і журбы, шчасьця і нядолі... Але, прыгожа сёньня было. Як я люблю вялікія сьвяточныя дні! Як хор пяяў стройна. Здавалася, што дух нашых сялянцаў узьнёсься ўзвыш, забываючы сумныя будні. Адчуваецца іншае якоесь жыцьцё... Зьмяняюся сама: сільнейшая воля, жывей б'ецца сэрца. (*Глядзіць праз вакно*). Але-ж пара ўжо і маме вярнуцца. Пэўна Янкі чакае, каб ісьці разам. Ён заўсёды мае шмат інтарэсаў. То газэтку ўзяць, то пагаманіць з старшымі, то з маладзежай пагутарыць... Толькі ён цяпер такі дзіуны стаў і нямоўны. Разалька глядзіць на яго з трывогай. Але ўжо такая яго натура: тут вясёлы, тут сумны. Асабліва грызецца тады, калі высьмейваюць яго добрыя намеры... Не такі мой Франук. Зусім іншы...

**Разалька** (*за вакном*). Каруся! Франук кланяецца!

**Каруся.** Гдзе-ж ён? Дзякую, які міленькі!

**Разалька.** Зара раскажу, а ці міленькі ён, гэта ўжо твая бяда.

**Каруся** (*да сябе*). Ведама бяда: спаць ад думкаў не магу.

ЗЬЯВА 2.

**Разалька** (*ўходзячы*). Хлопцы з дзяўчатамі зьбіраюцца на вечарыну. Але шмат ужо п'яных. Абрыдлі: я ўцякла.

**Каруся.** А гдзе Янка з мамаю?

**Разалька.** Янка пашоў з сваімі газэтамі да хлапцоў. А Франук маніўся з мамаю твэей ісьці да хаты. Казаў толькі перадаць табе паклон.

**Каруся.** Дзякую! Добры Франук! (*Абымае Разальку*). Прызнайся, Разалька: які ён табе, гэты... гэты... ну, словам Франук?

**Разалька.** О, гэтага табе я не скажу. Ведай толькі, што няма ў сьвеце харашэйшага і лепшага за вашага Янку...

**Каруся.** Калі ты ня скажаш, дык я скажу: ён страйнейшы, а наш Янка трохі разумнейшы. Добра?

**Разалька.** Можам яшчэ спорыць. (*Чуваць стук*). Але там ў сенцах хтосьціка стукаецца. Спаткай ідзі гасьця!

ЗЬЯВА 3.

*Уходзіць* **Міхасіха**. *За ею некалькі дзяцей. Між імі* **Язэпка**.

**Міхасіха**. Дзень добры вам, дзеванькі! Пахвалёны Езус! Слава Хрыставі! Во прывяла вам дзяцюкоў. Не даюць старой супакою. Кажы ім усё байкі.

**Каруся**. Садзіся, бабулька, калі ласка, госьцяй будзеш.

**Міхасіха** (*сядае, цяжка ўздыхаючы, каля яе дзеці*). Ох, добрая госьця! Не такіх вам ужо трэба, дзеванькі. Ох, старасьць, старасьць... (*Апушчае галаў*). Сон жыцьцё... мара злудная. Даўно-ж і я такой была, як вы... Ня йдзеце, дзеванькі, замуж, ня йдзеце! Не дайце кветачцы рана завянуць; прападзець-бо вашае харaство, замоўкнуць песьні, прыхіліць вас гора да зямелькі...

**Разалька.** А-ей! Бабулька сёньня нешта зразу ня тое. Малюе нам страшную будучыну. Дзеткі! Прасеце, малеце бабулю, каб баяла нам байкі.

**Дзеці.** Бабуля, бабуля! Кажы байкі, — кажы!

**Міхасіха.** Старая я ўжо і на байкі. Памяць цёмная. Але аб чым-жа вам казаць? Ці казала-ж я вам калі аб купальскай кветцы?

**Дзеці.** Не, не!

**Міхасіха.** Ну, дык паслухайце. Жыў-быў адзін стройны і разумны дзяцюк, Стафусь. І палюбілася яму харошая дзяўчынка, на імя Мальвіна. Была яна і прыгожая і багатая, але не хацела ісьці замуж за Стафуся, пакуль ня прынясе ён ёй купальскай кветкі.

**Адно з дзяцей (Язэпка).** А што гэта, бабуля, купальская кветка?

(Працяг будзе).

